Opł[illegible]a uiszczona ryczałtem. ЦАНА НУМАРУ 20 ГР.

№ 21 [illegible]дзеля, 28 Кастрычніка, 1928 г. м. Вільня. Год I

# ГРАМАДЗЯНІН

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ДУМКІ

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

Падпісная цана на 1 месяц 50 грашэй, на 2 месяцы 1 злоты. Заграніцу ўдвая даражэй. | Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Zawalna 6, m. 5, | АБВЕСТКІ ПА ЎМОВЕ

## Перад сэсіяй Сойму.

Праз некалькі дзён адчыніцца васеньняя сэсія Сойму, якая абяцае быць на гэты раз вельмі цікавай.

Перш- наперш разгляд праэкту дзяржаўнага бюджэту на наступны год, які на 150 мільёнаў большы папярэдняга.

Ужо ў апазыцыйнай прэсе пачалі зьмяшчацца артыкулы, рэзка крытыкуючыя новы бюджэт. Гэткае значнае павялічэньне бюджэту можа выклікаць новы канфлікт між урадам і большасьцю Сойму, якая на папярэдняй сэсіі выразна выказалася за зьменшэньне дзяржаўных выдаткаў. Цяпер гэтае пытаньне яшчэ больш актуальнае, калі прыняць пад увагу значна пагоршаўшую гаспадарчую сытуацыю Дзяржавы у зьвязку з благім ураджаем і сталым пасыўным гандлёвым балянсам. Гандлёвыя перагаворы з Нямеччынаю ізноў спыніліся, у той час як з Саветамі на‘т не пачыналіся.

Значнае ажыўленьне ўнясе і дыскусія над заграмічнаю палітыкаю у зьвязку з магчымаю датэрміноваю эвакуацыяй хаўрусьнікамі Прырэйнскай вобласьці. Праўда, па гэтаму пытаньню не прадбачыцца значнай розьніцы у паглядах Ураду і большасьці польскіх партыяў, бо ніякая інтэрвэнцыя польскае дыплёматыі, на‘т самая рашучая і энэргічная, ня ў моцы зьмяніць ход палітычных падзеяў у Заходняй Эўропе, якая свае асабістыя інтарэсы ставіць на першым пляне. Было-б вялікаю палітычнаю блізарукасьцю дапушчаць, што Францыя дзеля вернасьці хаўрусу з Польшчаю адмовіцца ад тых палітычна-гаспадарчых карысьцяў, якія выцякаюць з зблiжэньня яе з Нямеччынаю.

Але больш паважным момантам у надходзячай сэсіі Сойму зьявіцца, бязумоўна, дыскусія над праэктам зьмены Канстытуцыі, калі толькі ўрад выступіць з гэткім праэктам. Хаця да гэтае пары пакуль нічога ня чуваць аб гэтым. Зусім магчыма, што ўрад хоча прыглядзецца, як зложыцца і устасункуецца да яго апазыцыя. Праэкт зьмены канстытуцыі ўжо апрацаваны і можа быць унесены Урадам да Сойму ў кожную хвілю, як толькі вытварыцца ў Сойме адпаведная сытуацыя.

Нарэшце, новым зьявішчам у гэтай Сэсіі будзе разлом сярод Польскае Сацыялістычнае Партыі. Дзякуючы гэтаму разлому, ўрадавы блёк узмоцніцца на некалькі галасоў адкалоўшыхся правых сацыялістаў. Але гэта ня ўплыве на зьмену суадносінаў сілаў. Вось хіба толькі зьменшыцца ўплыў польскае сацыялістычнае партыі, якая да гэтае пары была найлічнейшаю пасьля блёку супрацоўніцтва з Урадам. Затое пазастаўшая частка П. П. С. цяпер займе яшчэ больш апазыцыйнае становішча ў адносінах да Ураду. Але чакаць ад гэтага якіх небудзь спэцыяльных карысьцяў для нацыянальных меншасьцяў, у тым ліку і для беларусаў, ня прыходзіцца.

# Палітычная хроніка.

## З ПОЛЬШЧЫ.

### Канфэрэнцыя па Віленскаму пытаньню.

Учора адбылася ў Прэзыдыуме Рады Міністраў канфэрэнцыя, у якой прыймалі ўдзел прэм'ер Бартэль і міністры: Скарбу — Чэховіч, Унутраных Спраў — Складкоўскі, Прамысловасьці і Гандлю — Квяткоўскі, Зямельных Рэформ — Станевіч і Віленскі Ваявода — п. Рачкевіч. На Канфэрэнцыі абгаворваліся пытаньні, спэцыяльна зьвязаныя з Віленшчынаю.

### Адкрыцьцё сэсіі Сойму.

Тэрмін скліканьня Сойму аканчальна вызначаны на 31 кастрычніка. Першае паседжаньне адбудзецца 6 лістапада.

### Раскол сярод P. P. S.

Унутраныя непаразуменьні сярод польскай сацыялістычнай партыі распачаліся з таго часу, як Марачэўскі ўвайшоў да Ўраду і адмовіўся падпарадкавацца жаданьню партыі пакінуць пасаду міністра працы, нарушыўшы гэткім чынам партыйную дысцыпліну, за што і быў выключаны з партыі. У часе выбараў да Сойму і Сэнату P.P.S. выступалі супольна і здабылі найбольш мандатаў пасьля беспартыйнага блёку супрацоўніцтва з урадам, зьяўляючыся другою па ліку партыяй.

Але з пераходам P.P.S. да апазыцыі ў адносінах Ураду Маршалка Пілсудзкага ў цэнтры партыі зноў пачаліся непаразуменьні, якія нарэшце прывялі да адкрытага разлому партыі на два крылы—правае, на чале з дэпутатам ад Варшавы, Явароўскім, якое стаіць на грунце супрацоўніцтва з Урадам Маршалка Пілсудзкага, і левае, якое застаецца ў апазыцыі да Ўраду. Органам левага крыла застаецца „Robotnik", а правае пачало выдаваць новую часопісь „Przedświt". З дэпутатаў і сэнатараў на бок Яварова́кага ўжо перайшлі наступныя асобы: Праўсава, Заменцкі, Даўнаровіч, Ніскі, Шчыторскі, Баброўскі, Пончэк, Маліноўскі, Даніловіч, Сьвятэцкі і яшчэ некалькі, якія пакуль займаюць нэйтральнае становішча.

Новая група P.P.S. (правіца) заяўляе, што гатова вярнуцца да партыі пры варунку „адмовы сацыялістычнае партыі ад дэмагогіі і прыступленьня яе да рэальнае палітыкі, якая запэўніла-б рабочай клясе належны ўплыў у дзяржаве. Затым адмовы ад непрадукцыйнае апазыцыі, над якою ўрад старшыні варшаўскага саюзу работнікаў і бяз гэтага перайшоў да дзеннага парадку".

Гэта толькі разлом у цэнтры, сярод „гэнэралаў" партыі. А як адклікнецца на гэта партыйная „армія", невядома. У кажным разе, гэты раскол сярод наймацнейшай з апазыцыйных партыяў у парляманце мае вялікае значэньне, асабліва ў гэты крытычны момант для польскага парлямантарызму на пярэдадні скліканьня Сойму для разгляду бюджэту і дзяржаўнага праэкту зьмены канстытуцыі. З разломам сярод P.P.S. апазыцыя да Ўраду Маршалка Пілсудзкага на тэрэне парляманту значна аслабла і можа ўплынуць на іншыя нерашучыя групы.

### Няўдалая агульная забастоўка ў Лодзі.

У першай палове кастрычніка выбух канфлікт між работнікамі тэкстыльнае прамысловасьці і прамыслоўцамі Лодзінскага прамысловага раёну на эканамічным грунце. У гэты канфлікт умяшаліся ўлады і на супольным зьмешаным паседжаньні прадстаўнікаў работнікаў і прамыслоўцаў пры ўдзеле прадстаўнікаў ураду прамыслоўцы згадзіліся павялічыць заработную плату на 5 прац. Работнікі ня прынялі гэтай прапазыкі і абвесьцілі забастоўку, якая ахапіла ўвесь Лодзінскі раён. Для падтрыманьня бастуючых тэкстыльшчыкаў лодзінскія прафэсыянальныя саюзы абвесьцілі 15 кастрычніка агульную забастоўку, якая ахапіла трамвай, меставых работнікаў, часткава тэлеграф і тэлефон, гандлёвых служачых і г. д. Аднак-жа, дзякуючы непаразуменьням сярод работнікаў у зьвязку з матэр'яльнымі недахопамі, гэнэральная забастоўка не ўдалася. Ужо на 2—3 дзень работнікі пачалі грамадамі варочацца на фабрыкі да працы. Трамвай быў урухомлены і прамыслова-гандлёвае жыцьцё ў Польскім Манчэстэры паволі унармавалася. Работнікі пайшлі на ўступкі і, здаецца, згодзяцца на прапазыкі прамыслоўцаў.

### Спыненьне польска-нямецкіх гандлёвых перагавораў.

Польска-нямецкія гандлёвыя перагаворы зноў хвілёва спынены дзеля таго, што абедзьве стараны высунулі рад прапазык, якія патрабуюць разгляду адноснымі ўрадамі.

### Гандлёвы баланс за верасень.

Гандлёвы баланс Польшчы за верасень крыху пагоршаў у параўнаньні з папярэднім месяцам: дэфіцыт за жнівень складаў 62 мільёны зл., а за верасень — 68 міл. Павялічыўся вываз ячменю, гароху, цукру, нафты, зьменшыўся—вугля, мэталічных вырабаў, смазачных прадуктаў.

### У Лодзі ідзе нармальная праца.

24 кастрычніка на ўсіх лодзінскіх фабрыках пачалася нармальная праца.

# З ЗАГРАНІЦЫ.

## Савецка-латвійскія непаразуменьні.

Пад націскам латвійскай прэсы радавы ўрад прымушаны быў адклікаць з Рыгі ваеннага атташэ пры савецкім пасольстве, Судакова, які быў замешаны ў шпіянажы. У зьвязку з гэтым, радавы ўрад выслаў Латвіі ноту, у якой жадае ад латвійскага ўраду адкліканьня свайго ваеннага прадстаўніка з Масквы, палкоўніка Кэллера.

## Акадэмія Навук у Менску.

Згодна з пастановаю Ўраду Ўсх. Беларусі Інстытут Беларускае Культуры (Інбелкульт) будзе ператвораны ў Беларускую Акадэмію Навук.

## Беларусізацыя Усходняе Беларусі.

Паводле вестак з Менску Беларуская Ўрадавая Камісія сцьвердзіла, што з 6,490 урадоўцаў, працуючых ў Менскім і Полацкім раёнах, толькі 11 прац. уладае беларускаю моваю, 42 прац. праходзяць курс беларускай мовы і рэшта 47 прац. урадоўцаў зусім ня ведае беларускае мовы. У зьвязку з гэтым каля 2.000 урадоўцаў падлягаюць звальненьню са службы.

## Голад у Маскве.

У Маскве ўсё больш і больш адчуваецца недахоп спажыўных прадуктаў. Хлеб, малако, яйкі і мяса можна дастаць толькі ў самым абмежаваным ліку. Паводле вестак з Бэрліна, у Маскве запраўдны голад. Перад каапэратывамі і крамамі стаяць вялізарныя „хвасты“.

## Голад на Украіне.

Паводле вестак з Харкава, лік галадаючых на Украіне дасягае 3 мільёнаў чалавек. У местах выдаюцца прадукты па картачках. У Маскве і Петраградзе гэтак сама ўведзена картачная сыстэма. Цэны на хлеб і муку бязупынна растуць.

## Паўстаньне на Каўказе.

У Кабардынскім вокрузе выбухла паўстаньне горцаў проці радавае ўлады. Прычынаю паўстаньня зьяўляецца загад радавае ўлады аб адабраньні дзяцей для выхаваньня ў камуністычных прытулках.

## Закрыцьцё цэркваў.

У працягу верасьня радавыя ўлады закрылі ў Расеі 63 цэрквы. Большасьць гэтых цэркваў перароблены ў музэі ці кінаматографы

## Рэвалюцыя ў Афганістане.

У Афганістане выбухла рэвалюцыя, выкліканая ўвядзеньнем каралём Амануляхам эўрапэйскіх рэформаў. Паўстаньне зьліквідавана пры помачы кавалерыі і артылерыі.

# Тутэйшая хроніка.

— **Новыя правы для Старастаў.** У „Dzienniku Ustaw“ ад 19 г. м. зьмешчаны загад Міністра Ўнутраных Справаў, на падставе якога старасты маюць права вызначаць максымальныя цэны на артыкулы першай патрэбы, у першую чаргу на артыкулы спажывецкія, пасьля адпаведнай згоды з камісіямі спэцыялістаў. Загад гэты датычыць, галоўным чынам, надмернага падняцьця цэнаў на муку і хлеб у некаторых ваяводзтвах.

— **Гэрбавыя аплаты.** Міністэрства Ўнутраных Справаў разаслала цыркуляр да ваяводаў усходніх ваяводзтваў, які нармуе сьцягваньне гэрбавых аплатаў гміннымі ўрадамі за выдачу адпаведных пасьведчаньняў дакумэнтаў. Адносіцца гэта, галоўным чынам, да ўсіх дакумэнтаў асабістых, як акты выпадкаў, пасьведчаньне прыналежнасьці і г. д.

— **Інспэкцыя Міністра Ўнутраных Справаў.** У канцы мінулага тыдня Міністар Унутраных Справаў, гэн. Славой—Складкоўскі, прыехаў з Варшавы для інспэкцыі Віленшчыны. У паездках па паветах Віленшчыны Міністру таварышыў ваявода, п. Рачкевіч. У нядзелю увечары Міністар выехаў да Варшавы, каб узяць удзел у паседжаньні эканамічнай Рады Міністраў.

— **Беларуская Хатка і Рэвізыйная Камісія.** Каму з нашых чытачоў не памятна тая шалёная кампанія, якую пасьля свайго банкруцтва павялі А. Паўлюкевіч, А. Якімовіч і М. Станкевічанка проці групы Т. Вернікоўскага і Рэвізыйнае Камісіі Т-ва „Белар. Хатка“.

І вось, каб нарэшце пераканаць „апазыцыю“ у сваей бесстароннасьці, пазастаўшыя пасьля выхаду з Рэвізыйнае Камісіі Б. Падбярэзкага два сябры яе, Я. Шыбка і М. Дыбоўскі запрапанавалі А. Паўлюкевічу, як найбольш зацікаўленаму ў ходзе рэвізіі, прадставіць кандыдата для кааптацыі да Рэвізыйнае Камісіі, пры варунку голькі, што гэты кандыдат павінен быць сябрам Т-ва і не выкарыстоўваць свайго становішча для асабістых інтарэсаў. Пры гэтым было падкрэсьлена А. Паўлюкевічу, што для гэтага непажадана была-б кандыдатура А. Якімовіча, які мае свае асабістыя парахункі з Вернікоўскім, што можа пашкодзіць бесстароннай супакойнай працы.

Аднак, пасьля некалькіх дзён Паўлюкевіч прадставіў у кандыдаты ласьне А. Якімовіча.

Рэвізыйная Камісія, ня ведаючы таго, што Якімовіч завешаны Часовым Урадам Хаткі ў чыннасьцях сябры Т-ва Хаткі, згадзілася на кааптацыю яго.

Але з першых-жа крокаў А. Якімовіч пачаў выяўляць сябе ува ўсім сваім абліччы. Перш-на-перш, ён без усялякага упаважненьня і згоды з боку рэшты сяброў, пайшоў да ўладаў ад імя Рэвізыйнае Камісіі. Затым, разам з Паўлюкевічам пачалі шантажававаць проці паасобных сяброў Камісіі пры помачы вознага Высоцкага, пасылаючы яго да ўладаў, інспэктара працы і г. д.

Нарэшце, п. А. Якімовіч паставіў усе кропкі над і: ён заявіў, што яму ходзіць не аб абароне інтарэсаў Паўлюкевіча ці рэальнай працы ў Камісіі, а аб тым толькі, каб атрымаць ад Т. Вернікоўскага ні больш — ні менш як... 1.800 зл., якія яму, быццам, засталася віннаю Хатка, як старшыні „Прасьветы". Пры гэтым ён выразна пачаў выкарыстоўваць сваё становішча сябры Рэвыйнае Камісіі толькі для сваіх карыснних мэтаў.

А пасьля таго, як ад Часовага Ўраду Т-ва Хаткі было атрымана паведамленьне, што Якімовіч завешаны ў чыннасьцях сябры Т-ва, Рэвізыйнай Камісіі, не заставалася нічога іншага, як запрапанаваць яму падаць заяву аб сваім выхадзе са складу Рэвізыйнае Камісіі, што і было ім зроблена 20. X. 28 г.

Гэтак няўдала скончылася спроба А. Якімовіча зьвясьці свае асабістыя парахункі з Т. Вернікоўскім пры помачы Рэвізыйнае Камісіі.

Пасьля выхаду з Рэвізыйнае Камісіі А. Якімовіча быў кааптаваны і даў сваю згоду на ўваход да Рэвізыйнае Камісіі сябра Т-ва, п. Л. Фэкіч.

— **З жыцьця „Прасьветы".** У Ушанскім аддзеле „Прасьветы" адбыліся перавыбары Ураду, у які папалі: Старшынёй застаўся Мікалай Усьціновіч і сэкратаром выбраны Васіль Місюль, а скарбнікам Сыльвэстра Маліноўскі

У вёсцы Юраўшчына, Беніцкае гміны, Маладэчанскага павету, адчынены новы аддзел Т-ва „Прасьветы" № 80, імені Янкі Купалы.

У склад Ураду ўвайшлі: Старшынёй Павал Асіповіч, Скарбнікам Андрэй Кананович і сэкрэтаром Юльян Сяргеевіч

28 кастрычніка Тэатральнай Сэкцыяй Румянцаўскага Аддзелу „Прасьветы" наладжваецца спэктакль у вёсцы Ленькаўшчына, гміны Беніцкае.

— **Запярэчаньне.** Газэты „Слова Працы" і „Сялянская Ніва" паведамляюць што, быццам, „Грамадзянін" і Беларускі Радны" ў хуткім часе перастаюць выходзіць.

Гэтым мусім сцьвердзіць, што нам нічога ня ведама, каб гэтыя газэты меліся спыніцца ў сваім выхадзе, і усялякія чуткі аб гэтым беспадстаўныя.

— **Адклад агульнага сходу Т-ва Беларускай Школы.** Дачасная Паўнамоцная Камісія Таварыства Беларускае Школы паведамляе, што Агульны Сход Таварыства, які быў вызначаны на дзень 21 кастрычніка с. г., адкладваецца дзеля таго, што да гэтага часу яшчэ не праведзены выбары дэлегатаў.

Апрача таго, Дачасная Паўнамоцная Камісія настойна дамагаецца ад Акружных Управаў і Управаў Гурткоў прыняць энэргічныя меры да збору сяброўскіх складак, а ўсіх сяброў Таварыства заклікае да выкананьня сваіх абавязкаў узносу сяброўскіх складак, бо брак срэдстваў затрудняе скліканьне Зьезду.

— **Бепарус у Латвійскім Сойме.** У нова выбраны Латвійскі Сойм прайшоў па сьпіску сацыял-дэмакратаў гр. В. В. Пігулеўскі—кіраўнік Беларускага Аддзелу ў Міністэрстве Прасьветы. В. Пігулеўскі ў беларускім руху працуе з 1919 г. Некаторы час працаваў у Коўне пры ўрадзе Ластоўскага. У 1921 годзе ааля паўгода прабыў у Вільні. Пасьля ізноў вярнуўся ў Коўна, а адтуль выехаў у Латвію, дзе працаваў у бел. гімназіі ў Дзьвінску, пакуль ня быў выбраны і зацьверджаны ўладамі на кіраўніка Бел. Аддзелу Прасьветы ў Міністэрстве.

— **Гадавы агульны сход Бел. Студэнскага Саюзу** адбыўся 20 кастрычніка ў-ва ўласным памешканьні у Вільні (сьв. Анны, № 2). На парадку дня былі: выбары Новага Ўраду на наступны год, справа часопісі „Студэнская Думка", справа працы будучага Ўраду і іншыя.

— **Аб прыватных бел. школах.** Інстытут Гаспадаркі і Культуры атрымаў канцэсію на прыватную школу у Максімаўцах, Радашкавіцкае гміны. Гэткім чынам, Інстытут ужо мае пад сваім наглядам 3 прыватныя школы.

— **Аб беларускім тэатры.** Інстытут Гаспадаркі і Культуры маніцца арганізаваць некалькі спэктакляў у Вільні.
Спэктаклі маюць адбывацца 1 раз на два тыдні, пасьля, магчыма, што беларускія спэктаклі будуць часьцей адбывацца. У першую чаргу падгатаўляюцца да пастаноўкі сцэнічныя творы: „На Антокалі", „Залёты" і „Апошняе спатканьне". Калі праца Тэатральнае Сэкцыі Інстытуту будзе нармальна разьвівацца і здабываць грунт для самастойнага істнаваньня беларускага тэатру, Тэатральная Сэкцыя Інстытуту, магчыма, будзеператворана ў асобную праўную адзінку — Беларускі Тэатр у Вільні.

— **Адчыты.** 14 і 21 кастрычніка адбыліся ў салі Віл. Беларускае Гімназіі адчыты, наладжаныя Бел. Студэнскім саюзам. Чыталі лекцыі: пасол Я. Станкевіч і гр. Антон Луцкевіч.

Папулярнасьць лектараў гварантавала цікавасьць адчытаў і, каб яны рабіліся неяк не па сэкрэту, а загадзя былі ведамы агулу грамадзянства, дык пэўне-ж і слухачоў было-бы значна больш.

Як паведамляюць беларускія газэты („Сялянская Ніва" № 36, „Biel. Krynica" № 17 і „Слова Працы" № 4), на першай лекцыі Я. Станкевіча аб беларускай мове была зроблена абструкцыя, якая выклікала пасьля нейкі інцыдант паміж Я. Станкевічам і вучнямі Віл. Бел. Гімназіі.

— **Лекцыі беларусазнаўства.** Як паведамляе „Сялянская Ніва“, пры Інстытуце Гасп. і Культуры арганізаваліся лекцыі беларусазнаўства. Уваход вольны. Шкода, што газэта не паведамляе, у якія дні і ў якія гадзіны адбываюцца гэтыя лекцыі

— **Курсы па пчалаводзтву.** Związek Kółek i Organizacyj Rolniczych на Віленшчыну падае да ведама, што з мэтаю павялічэньня даходнасьці пасек і азнаямленьня мяйсцовага насяленьня з рацыянальным пчалаводзтвам, Zw. Kółek i Organ. Rolniczych на Віленшчыну і Т-ва Пчальніцтва на Віленшчыну арганізуюць у Паставах, у памешк. Народн. Дому 3-х дзённыя курсы па пчалаводзтву. Пачатак 27 г. месяца а 3 гадзіне папалудні. Курсы для ўсіх бясплатныя.

— **Унявіненьне Тодара Сьвірыда.** На адбыўшымя нядаўна ў Віл. Акр. Судзе працэсе 35 беларусаў, абвінавачаных па 102 ст. 1 ч. К. К., 23 засталося засуджанымі на рожныя срокі да 4 гадоў, а рэшта апраўданымі.

Паміж імі апраўдалі і Тодара Сьвірыда — Старшыню Аддз. „Прасьветы“ у Лебедзеве Маладэчанскага павету, абвінавачваць якога пракурор адмовіўся.

— **Сялянская Ніва.** Вышаў чарговы нумар (№ 36), які амаль што ўвесь, пачынаючы ад першага артыкулу (перадавіца „Кароткая гісторыя“) і канчаючы апошнім „камунікатам проці Спадара“, пасьвечаны паслу Янку Станкевічу. Відаць, „Спадар“ перамагае і патрабуе ўжо сур‘ёзнае ўвагі да сябе, калі матэр‘ялам цэлага нумару зьяўляецца ягоная асоба.

— **Беларускі адрыўны календар.** На днях выйдзе з друку Беларуксі адрыўны календар на наступны 1929 г. Беларускага Выдавецкага Таварыства. Календар зьмяшчае у сабе шмат матэр‘ялу з літэратуры, народных песьняў, прыпевак, прыказак, жартаў, па сельскай гаспадарды, каапэрацыі, гігіене, пчалярству, аб пагодзе ды рознай усячыны.

— **Безрабоцьце ў Вільні.** Паводле статыстычных даных, у мінуўшым тыдні на тэрэне Вільні зарэгістравана 2,308 безработных. У параўнаньні з папярэднім тыднем, безрабоцьце зьменшылася на 184 асобы.

# Карэспандэнцыі.

## Да працы, Беларусы!

(Вёска Капачы, Палачанскай вол.);

Сумна жывецца ў гэтыя часы ў нашай і іншых вёсках каля нас. Дзе ні глянеш, нідзе ня ўбачыш хаця-бы крыху сваей роднай культуры. Праўда, што народ каля нас бедны, а да таго яшчэ няпісьменны, мала цікавіцца сваёй роднай культурай.

Ня відаць, каб хто-небудзь узяў у рукі і прачытаў беларускую газэту, а калі сам ня можа, дык хаця-б паслухаў таго, хто можа чытаць. У нас гэта чамусьці зусім ня водзіцца. У нядзелю, ці ў якое другое сьвята зьбяруцца часам некалькі мужчын-старыкоў, пагутараць аб гаспадарцы, паглядзяць, як забаўляецца моладзь скокамі, дый разыйдуцца па сваіх хатах.

Калі паглядзіш, як у іншых вёсках закладаюцца аддзелы „Прасьветы“, адчыняюцца бібліятэкі-чытальні, ладзяцца спэктаклі, складаюцца дэклярацыі на беларускія школы, дык ажно цяжка і сумна робіцца на душы і, здаецца, шмат зрабіў-бы на ніве роднай асьветы і культуры, але на гэта трэба шмат працы і помачы ад грамадзянства, якое, нажаль, сьцюдзена адносіцца да гэтае працы.

Дарагія браты, Беларусы!! Не патрэбна нам лезьці ў палітычныя партыі, катэрыя толькі глядзяць на сваю ўласную карысьць. Досыц нам гэтае партыйнае грызьні. Трэба нам далучыцца да такіх правадыроў, каторыя імкнуцца і працуюць над пашырэньнем асьветы і культуры і ўсім, як адзін, гарнуцца да роднай асьветы.

Дык закладайце-ж аддзелы „Прасьветы“, закладайце бібліятэкі, складайце дэкляраныі на беларускія школы, пашырайце й чытайце сваё роднае беларускае слова, ня гледзячы на тое, што нам часта адмаўляюць у нашай просьбе. Калі нам адмовяць адзін раз, трэба прасіць другі, трэці раз—усё-ж такі калі-небудзь і з намі стануць лічыцца, калі толькі мы будзем трэбаваць справядліва і легальна.

Грамадзяне Беларусы! Кожны з вас павінен помніць, што ён Беларус і мае сваю Бацькаўшчыну, і мае сваю родную беларускую мову. Не павінен ніхто сароміцца таго, што нашу мову называюць простай і брыдкай, але з гонарам адказаць кожнаму, што хаця яна простая і брыдкая для каго, але для нас яна пекная дзеля таго, што яна наша родная і мы павінны яе шанаваць.

**Ян Крук.**

## Балячкі беларускай вёскі.

(Гародзькі, Валожанскі пав.).

Шмат ёсьць балячак у нашай вёсцы, што на‘т і пералічыць іх за адзін раз няма магчымасьці. На гэты раз я зьвярну ўвагу чытачоў на адну самую балючую і самую шкадлівую— гэта на наша беларускае жабрацтва.

Цяжка паверыць, але-ж гэта ня будзе праўдзівым, калі я скажу, што бываюць такія дні, калі прыходзе ў хату да дзесяці жабракоў у дзень. Ходзяць старыя, але большая частка ў сярэднім веку, самыя работнікі. Калі спытаешся „адкуль ты“, то найчасьцей называюць якую-небудзь далёкую вёску.

Адзін раз быў такі выпадак. Прыходзе маладая кабета, гадоў каля трыццаці. Пытаюся: „адкуль ты?" Адказвае мне: „з Поці". (Так называецца вёска ў вярстах дзесяці ад нас).

На другі дзень прыходзе ізноў маладая кабета.

— Адкуль ты?

— З Поці..

— Чаму гэта ад вас з Поці так шмат маладых жабрачак? Учора была ў мяне маладая кабета так-жа з Поці.—

— А Божа мой! Гэта-ж лгала: у нас больш няма такіх маладых жабрачак, як я.

Я падумаў сабе: можа і ты ня з Поці. Трэба было-бы папытацца пашпарта, але скажа: нямашака. Што-ж ты зробіш ёй.

Ёсць у нас у пяці вярстах вёска Л. Там жывець кабета, якая мае каля трох дзесяцін зямлі. Зямлю здае ў арэнду, а сама цягаецца па вёсках, як жабрачка.

Адзін сусед—ўдавец хацеў жаніцца з ёю, каб яе зямлю злучыць са сваёю. Нават перайшла да яго жыць. Але куды там... Не прайшло і тыдня, як баба некуды ўцякла.

Што-ж тут рабіць? Сорамна прызнацца, але трэба, што без дагляду ўладаў нічога ня зробішь. Старасты, а можа нават і вышэйшая ўлада павінна выдаць загад гмінам, а гэтыя праз солтысаў абвясьціць па вёсках, што каму патрэбна жабрацкая помач, няхай бяруць ад гміны асабісты дазвол на жабраваньне. Толькі такім узгадаваўчым сродкам можна падыйсьці да зьніштажэньня дэмаралізацыі нашага народу праз жабрацтва. Тады можна будзе „беспапернага" жабрака са спакойным сэрцам выправіць з хаты бяз нічога, а паліцыя можа пацягнуць яго да адказнасьці.

**Старац.**

## Прыкры выпадак.

(Вёска Слабада, Вялейскага пав.).

З усіх бакоў нашае шматпакутнае Бацькаўшчыны даходзяць радасныя для кожнага праўдзівага беларуса весткі, што наш народ паволі пачаў прабуджацца, што сьведамасьць народу з кожным днём расьце, а з гэтым самым расьце сіла і магутнасьць Беларусаў.

Толькі вось якраз узросту гэтай сьведамасьці мы ня бачым у Слабадзе. Праўда, ідуць у нашу вёску газэты, але, нажаль, падпішчык мала іх атрымоўвае, бо калі хто атрымае з пошты, дык не аддае, каму належыцца.

Сярод хлапцоў рэдка калі пабачыш каго-небудзь з газэтай ці кніжкай у руках. Дык ад „бязьдзельля"дзеюцца ў вёсцы рэчы, якіх мала хто памятуе нават са старых мужчын.

Вось вам выпадак, які ня так ужо даўно здарыўся ў нашай вёсцы. У старога беднага чалавека С. Г. адбывалася вечарынка, на якой былі толькі выключна адны дзяўчаты. У той дзень дзяўчаты рабілі складчыну: дзяўчаты прыносілі ці то крыху мукі, ці сала, ці грашмі, наймалі музыканта, пяклі пірагі і гулялі да самае раніцы. Але як у той хаце, дзе адбывалася вечарынка, нікога з мужчын ня было, акрамя старога дзеда гаспадара і музыканта, то дзяўчаты ўсю сваю складчыну палажылі на печ, дзе ляжаў дзед, які хутка заснуў.

І вось здарылася прыкрая рэч: цераз некалькі гадзін пасьля пачатку вечарыны зказалася, што ў каморы гаспадара хаты зроблена пакража. Злодзей, відаць, тры дні быў галодны, бо пакваліўся толькі на сала. Маланкай гэтая жудасная вестка абляцела вёску і ўсе сяляне с агідай пачалі адзывацца аб злодзею, распачаўшы дапрос, тым больш, што сала было не

---

М. Зошчэнка.

# Хамства.

Я то сам ня быў за граніцаю, дык і не магу вам вытлумачыць, што такое там робіцца.

Але вось нядаўна мой друг і прыяцель прыехаў з-за граніцы, дык ён шмат чаго арыгінальнага раскаваў.

Галоўнае, кажа, там капіталізм заядае. Тамака бяз грошай проста, можна сказаць, дыхнуць не дадуць. Тамака грошы ў іх на першым мейсцы. Смаркануўся — і то гані фэніг.

У нас грошы так-жа цяпер досыць такі часта патрабуюцца. Можна сказаць: куды ня плюнь — за ўсё выцягай портманэ. Але ўсё-ж такі ў нас, як быццам, куды лягчэй.

У нас, напрыклад, на гарбату можна ня даць. Нічога гэткага ня зробіцца. Ну, афіцыянт скрывіць морду ці крэслам таўхане, маўляў — так-жа сядзеў, рыжая псіна... І ўсё.

А некаторыя, найбольш сьвядомыя, дык і крэсламі ня стануць рухаць. А толькі ўздыхнуць, маўляў, — так-жа публіка.

А там у іх за граніцаю, калі, для прыкладу, на гарбату ня даць — буйныя няпрыемнасьці могуць вынікнуць. Я ня быў за граніцаю — ня ведаю. А вось з гэтым маім прыяцелем здарылася. Ён у Італіі быў. Хацеў на Максіма Горкага паглядзець. Але да яго не даехаў, растроіўся. І вярнуўся назад.

А ўся справа вынікла з-за гарбатных.

Ці ў майго прыяцеля грошай было мала, ці ў яго пераканаsuccessful кульгалі і не дазвалялі, але толькі ён нікому на гарбату не даваў. Ні ў рэстаранах, ні ў гатэлях — нікому.

А то, думае, пачнеш даваць — з голым носам дамоў вернешся.

Там-жа служачага народу чартоўская моц. Гэта ў нас, скажам, сядзіць адзін швайцар каля дзьвярэй і нікому не дакучае. Яго нават ня відаць за газэтаю. А тамака, можа, адны дзьверы трыццаць чалавек адчыняюць. Ну-ж, папрабуй, усіх надзялі.

Так што мой прыяцель нікому не даваў.

А прыехаў ён у першы гатэль.

ўласнае гаспадара, а толькі купленае, ці прасьцей кажучы, узятае напавер. Дзякуючы энэргічнаму шуканьню злодзей хутка быў знойдзены.

Дык скажэце, людзі добрыя, хто павашаму быў гэтым злодзеям. Пэўне, адкажэце, што чалавек бедны, у якога, можа, у хаце ня было чаго есьці, ці чалавек пажылы гадамі.

Дык не! Акурат аказалася, што гэтым злодзеям ёсьць хлапец ня бедных бацькоў Л. Хлапец гэты яшчэ малады, мае гадоў 16—17, але першы ў вёсцы хуліган. Дзе якая ў вёсцы вечарына, ён заўсёды п'яны і вырабляе такія рэчы, што старэйшаму чалавеку сорамна глядзець. І вось гэты хлапец, пусьціўшыся на гэты промысел, не адразу прызнаўся да свайго агіднага чыну, бо вельмі хацеў мець з гэтага яшчэ якую-небудзь для сябе карысьць, і датуль не прызнаваўся да зладзейства, пакуль не дакляравалі яму пастаронньнія людзі пірог. Калі піроґ быў даручаны, Л. аддаў сала і з уласьцівым багатым людзям пражорствам, схапіўся за пірог і хутка панёс да хаты. Бацька-ж, даведаўшыся аб усім гэтым, выдраў сына мокраю вяроўкаю, як сідараву казу. Бацька лупцуе яго ўжо ня першы раз, але ён папраўляцца ані думае.

Вось якія рэчы дзеюцца ў вёсцы. Нажаль, шмат яшчэ чаго можна было-б напісаць пра ад'емныя бакі жыцьця нашай вёскі, але ў другі раз напішу аб бакох дадатніх.

**Вясковы.**

## Спэктакль.

(Беніцкага Аматарскага Кола, Маладэчанскага п.)

Кожнага году 14 кастрычніка ў Беніцы адбываецца ўрачыстасьць сьв. Пакроваў, на якія зьбіраецца множства народу.

Карыстаючыся з гэтай аказіі і другіх усебаковых варункаў, мяйсцовае Аматарскае Кола наладзіла спэктакль. Адыграны былі „Delikatne zlecenie“ і „O Józię“—аднаактовыя камэдыі.

Трэба прызнаць, што п. Грывіцкі вельмі ўмела наладзіў спэктакль. Сколькі было публікі, бяз вынятку ўсе былі задаволены. За гэта п. Грывіцкі, а таксама ўсё Кола заслугоўвае на пашану і трэба пажадаць Колу далейшага пасьпеху,

Праўда, дазваляю сабе напомніць Колу, што дужа было-б добра, калі-б ставілі сцэнкі з жыцьця вясковага, зразумелага для тутэйшага беларускага сялянства. А яшчэ было-б лепш, каб нашы „колаўцы“ ставілі супольныя беларуска-польскія спэктаклі з Драм.-Сэкцыяй аддзелу „Прасьветы“.

Вось толькі такі маюць дэфэкт паны „колаўцы“ ў сваёй карыснай працы. І, як думаю ня толькі я, але ўсе больш сьвядомыя беларусы, гэтые дэфэкты паны „колаўцы“ на чале з панам войтам Пжэздомскім захочуць паправіць. Бо гэта патрэба і жаданьне тутэйшай беларускай люднасьці. Мы, Беларусы, спадзяёмся, што ў хуткім часе на сцэне ў памешканьні гміны пачуем родную мову двох братніх народаў.

**П. Ач.**

## Наш войт.

(М. Лебедзева)

30 верасьня адбылося паседжаньне Лебедзеўскае Гміннае Рады. На гэтым паседжаньні лаўнік Г. Зяновіч, сябра „Прасьветы“, зрабіў справаздачу аб працы гміннага ўраду і аб вядзеньні гміннай гаспадаркі. Справаздача была вельмі цікавая, бо яна кінула іскарку сьвятла

---

Прынялі яго там досыць акуратна. Уважліва. Шапкі зьнімалі, калі ён праходзіў.

Пражыў ён у такой пашане 4 дні і выехаў у другое места. А на гарбату, ведама, нікому ня даў. Дзеля прынцыпу.

Прыехау ён у другое места. Затрымаўся ў гатэлі. Глядзіць, — ня той калянкор. Шапак ня зьнімаюць. Гутараць суха, няўмільна. Лёкаі морды вернуць. І нічога хутка не падаюць.

Мой прыяцель думае: хамскі гатэль. Вазьму, думае, і пераеду.

Узяў і пераехаў. Пераехаў ён у другі гатэль. Глядзіць — зусім дрэнна. Толькі што па хары ня б'юць. Чамаданы рынаюць. Падаюць кепска. На званкі ніхто не зьяўляецца. Грубіяняць.

Больш двох дзён ня мог пражыць мой прыяцель і ў страшэнным агарчэньні паехаў у другое места.

У гэтым месьце, у гатэлі, швайцар чуць не прышчаміў майго прыяцеля дзьвярыма — так хутка іх зачыніў. Нумар-жа яму далі ў памыйніцы, поруч з кухняю. Прытым калідорныя гэтак гулка грымелі нагамі каля яго дзьвярэй, што мой прыяцель проста-такі захварэў нэрвовым растройствам. І, не даехаўшы да Максіма Горкага, вярнуўся на бацькаўшчыну.

І толькі перад самым ад'ездам прыпадкова спаткаў свайго школьнага сябру, катораму і расказаў аб сваіх няпрыемнасьцях.

Школьны сябра кажа:

— Вельмі, кажа, зразумела. Ты, нябось, гарбатныя дрэнна даваў. За гэта яны табе, напэўна мінусы на чамаданы ставілі. Яны заўсёды адметкі робяць. Каторыя даюць — плюс, каторыя хамяць — мінус.

Прыбег мой прыяцель дамоў. Сапраўды, на левым рагу чамадана — чатыры рыскі.

Сьцёр гэтыя рыскі мой прыяцель і паехаў на бацькаўшчыну.

З расейскага пералажыў

**Улад-Ініцкі.**

на тое, што да гэтага часу рабіў войт гэтае гміны.

Трэба сказаць, што п. войт быў у свой час прысланы Вялейскім старастай на войта ў м. Лебедзева і калі ў 27 годзе былі перавыбары Гміннае Рады, дык ён застаўся і надалей. Сярод начальства цешыцца апініяй добрай і мае вялікі давер і, як відаць, гэта апошняе і папсавала п. войта.

Прадчуваючы, што ад справаздачы лаўніка дастанецца, галоўным чынам, яму, як войту — гаспадару гміны, ён папробаваў ня даць лаўніку права голасу і яшчэ прыгразіў пацягнуць яго да адказнасьці за тое, што ён асьмеліўся без яго ведама падняць голас у Радзе. Але, як відаць, п. Зяновіч не спалохаўся пагроз пана войта і з свайго боку заявіў, што тая адказнасьць, якую ён нясе прад Радай, змушае яго зрабіць такую справаздачу, тым балей, што ў вядзеньні гаспадаркі гміннай ён бачыць шмат неправідловасьцяў. Гэта змусіла і п. войта даць згоду на справаздачу лаўніка.

Гаворачы аб працы гміннага ўраду (zarządu gminnego), лаўнік Зяновіч падкрэсьліў, што такой працы зусім ня было, бо ўсё рабілася неяк без zarządu. Тут ён прывёў цікавы прыклад з такой працы — укладаньне бюджэту на 1928-29 год, каторы яскрава сьведчыць ня толькі аб працы zarządu, але і аб працы войта. Атрымаўшы паведамленьне, лаўнік прыйшоў у назначаны час у гміну. Войта ня было і ніхто з працаўнікоў гміны ня ведаў, дзе ён знаходзіцца. Пад вечар толькі п. войт прыйшоў у гміну, але ня меў вялікай ахвоты да працы над бюджэтам і адлажыў яго на наступны дзень. Другі і трэці дзень былі не шчасьлівейшымі ад першага. Да працы так і не прыступілі, але затое гміна была змушана заплаціць лаўніку за тры змарнаваныя дні дыет 28½ злотых.

Далей, лаўнік Зяновіч прывёў цэлы шэраг рахункаў, за каторыя заплачана ў два разы даражэй, чым гэта можна было зрабіць. І ўсё гэта робіцца дзякуючы таму, што войта мала цікавіць гмінная гаспадарка і ён кідаецца гміннымі грашыма ўправа і ўлева. На гэта войт адказаў, што ён кідаўся і кідацца будзе і нясе за гэта адказнасьць толькі перад сваёй вышэйшай уладай.

Сярод іншых дакумэнтаў ёсьць цікавы рахунак з датай 14.IV. 1928 г. на імя каваля Зыдара Валэйшага. Гэты каваль за выкананую працу павінен быў атрымаць сто дзесяць зл. Падпісаўшы паквітаваньне на вышэйшую суму, ён атрымаў толькі 60 зл. За рэштай прыйшлося хадзіць кавалю, да войта чуць ня што дня аж палавіну месяца. Толькі дзякуючы такому неадступнаму дамаганьню каваля войт выплаціў пакрысе яшчэ 40 зл., а пазастаўшымі дзесяцьцю злотымі дакляраваў выплаціць за каваля доўг.

Яшчэ больш цікавы рахунак на самавыплачываньне дыет за паездку да Маладэчна 18 і 19 мая на камісію рэкрутаў. Тут дык гаспадар выплаціў сам сабе і працаўніком гмінным балей, як належала. Але мала гэтага, адзін з працаўнікоў гмінных, п. Будзінскі, зусім ня езьдзіў у тых днёх да Маладэчна, а працаваў у гміне, і яму было выплачана каля 15 зл. дыетаў.

Закрануў нарэшце лаўнік і справу сьцягваньня падаткаў. Ён сьцьвердзіў, што гэта справа ў Лебедзеўскай гміне стаіць так: хто плаціць, то добра, а хто ня плаціць, то так сама добра, што няма ніякага націску з боку гміны на тых, каторыя ня хочуць плаціць. Дзякуючы гэтаму залегласьці з папярэдніх гадоў перавышаюць некалькі тысячаў зл. і грашовыя справы гміны надта дрэнныя. Гмінная Рада змушана зацягваць у касах пазычкі толькі дзеля таго, каб выплаціць пэнсію гмінным працаўніком і солтысам.

Выслухаўшы даклад лаўніка, Рада ўхваліла склікаць рэвізыйную камісію.

З свайго боку п. войт, каб апраўдацца перад Радай, пералічваў усе тыя „дабрадзействы“, што ён зрабіў для гміны, а лаўніка Зяновіча стараўся зьняважыць у вачох Рады, як толькі мог, называючы яго проціўпадатковым агітатарам і пагражаючы зрабіць яму паліцэйскую справу ў гэтым кірунку (!).

Спадзяёмся, што ўлада займецца гэтай справай і зьверне ўвагу на нашую гміну, дзе вядзецца такая гаспадарка.

„Падслухаўшы“.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Як памагчы недахопу пашы.

У гэтым годзе, як ведама, у нас адчуваецца вялікі недахоп пашы. Дзякуючы няспрыяючым атмосфэрычным варункам, не ўрадзілі сенажаці; канюшына, а гэтак сама значна меншы збор саломы зернавога збожжа. А разам з колькасьцю пагоршала і якасьць пашы. Дзеля гэтага сяляне змушаны будуць пазбыцца часткі жывёлы, а тая, якая застанецца, не аплаціцца поўнасьцю. А дзякуючы прадажы жывёлы зьменшыцца колькасьць хлеўнага гною, у рэзультаце, мала ўгноеная глеба зарасьце бур'янам і на'т у наступныя гады будзе даваць благія ўраджаі. Дзеля гэтага ад недахопу пашы гаспадары могуць страціць ня толькі ў бягучым і наступным годзе, але і ў наступныя гады. Усё гэта павінна змусіць нашых сялян яшчэ ў гэтым годзе выкарыстаць усю пашу, каб не прадаваць за бясцэнак статак.

Кожны гаспадар павінен паруціцца, каб не змарнаваць нічога з пашы. Дзеля гэтага ўвесь картаплянік, кукурузьнік, гарохаўка не павінны марнавацца на полі, але іх трэба зьмяшаць

з другою лепшаю пашаю і заквасіць, ад чаго будуць больш смачныя і пажыўныя.

Гаспадаркі, якія знаходзяцца блізка бравароў, павінны выкарыстаць брагу. Зьмешаная і заквашаная з парэзаным картаплянікам, гарохаўкаю і кукурузьнікам, якія толькі павінны быць без зямлі, дасьць добрую, смачную і спажыўную пашу, якая можа замяніць салому ці сечку.

Пажыўнае пашы ў гэтым годзе гэтак сама будзе мала. А дзеля таго, што ня можна даць жывёле значнай колькасьці пашы, трэба палепшыць яе якасьць. У першую чаргу трэба рупіцца аб тым, каб льнянае і канаплянае семя перараблялася на мейсцы у павеце і гэткім чынам карысная макуха ня выходзіла ў іншыя правінцыі ці заграніцу, а заставалася дома.

Затым, кулкі ральнічыя павінны ўзмоцніць акцыю пакупкі вотрубяў па млынох і ад войска. Трэба гэтак сама выкарыстаць жалуды і каштаны. Яны горкія і спачатку жывёла есьць іх неахвотна. Дзеля гэтага спачатку трэба даваць пакрыху, пакуль ня прывыкне, а затым паволі павялічываць колькасьць, даводзячы да 5 кіляграмаў на штуку. Каб ня былі вельмі горкія, можна мачыць і варыць. Для перахаваньня ўзіму жалуды трэба высушыць. Каштаны молатыя ці вараныя даюцца зьмешанымі з другою пашаю усёй жывёле, акрамя кароў, бо малако мае гаркаваты прысмак ад каштаноў. Затое коням, сьвіням і іншым можна даваць жалуды і каштаны бяз шкоды для іх здароўя.

## Пераход ад летняй да зімовай пашы.

Трэба спадзявацца, што пасьля сёлетняга неўраджаю пашы, сяляне парупяцца аб тым, каб як найдаўжэй пасьвіць статак на палёх. Дык паглядзім, якая з гэтага можа быць шкода ці карысьць.

Зялёная паша найбольш пажыўная ўвясну. Чым дальш да восені і зімы, тым меншая яе пажыўная вартасьць. Але якую-небудзь пажыўную карысьць мае і позьняя паша. Перш-наперш трэба прыняць пад увагу тое, што статак на пасьвішчы у позьнюю восень мерзьне і церпіць ад холаду. Калі параўняць карысьць ад малакарыснай васеньняй пашы з стратамі, якія нясе статак у рэзультаце холаду, дык, бязумоўна, страты пераважаюць карысьці.

Дзеля гэтага ў заходніх даяржавах, дзе вядзецца рацыянальная гаспадарка, сяляне пасуць статак найпазьней да канца верасьня. Пазьнейшая пасьба па пасьвішчах ім ужо не аплачываецца.

Затым, трэба зьвярнуць увагу на пераход ад зялёнай пашы да сухой, зімовай. Як раптоўны пераход ад аднаго роду ежы да другога шкадліва адбіваецца на здароўі людзей, як гэта часта бывае пасьля вялікага сьвята, калі людзі хварэюць на жалудачныя хваробы, гэтаксама раптоўны пераход ад аднаго роду пашы да другога шкадліва адбіваецца і на жывёле.

Дзеля гэтага трэба рабіць так, каб гэты пераход адбываўся няпрыметна для жалудка жывёлы. А гэта дасягаецца так: за тыдзень перад тым, як селянін хоча перастаць выганяць жывёлу на пасьвішча, трэба пачаць падкармліваць яе сухою пашаю. Кожную раніцу, як статак выганяецца на пасьвішча, трэба яго крыху пакарміць саломаю, гэтак-жа сама і ўвечары. Гэтую порцыю сухой пашы трэба з дня на дзень павялічваць, а час пасьбы зьмяншаць, каб праз тыдзень жывёла магла без жалудачнай хваробы спакойна перайсьці на сухую пашу. Калі-небудзь можа здарыцца выпадак, што пасьбу жывёлы на пасьвішчы прыходзіцца спыніць раптоўна, як напрыклад, у выпадку выпаду сьнегу. Як-жа тады зрабіць пераход ад летняй пашы да зімовай? Тады паступаюць гэтак: заместа зялёнай травы, якой пазбавілася жывёла на пасьвішчы, ёй даецца адпаведная колькасьць лісьцяў капусты, буракоў ці чаго іншага. Пры гэтым з дня на дзень павялічваецца порцыя сухой пашы, у той час, як паёк зялёных лісьцяў зьмяншаецца аж да поўнага спыненьня. Значна гарэй, калі няма ніякай зеляніны ў гаспадарцы. Тады заместа яе, трэба ўжываць буракі ці бульбу і паступаць з імі гэтак сама, як з лісьцямі.

Калі-ж хто захоча пасьвідь сваю жывёлу да самага сьнегу, дык трэба прытрымлівацца наступнага: не выганяць статак у даждлівую пагоду, але ў такіх выпадках трэба дадаваць да сухой пашы крыху лісьцяў буракоў. Не выганяць статак надта рана, калі трава пакрыта інеям, бо замёрзшая трава шкадліва для жалудка жывёлы і выклікае мытуху. У цельных кароў гэткая паша можа выклікаць выкідыш цяляці. Дзеля гэтага трэба быць вельмі асьцярожным з васеньняю пашаю, каб, заместа карысьці, не нашкодзіць сабе.

## Дагляд за кароваю ў зіму.

У зіму трэба больш зьвярнуць увагі на карову, чым улетку. Ад гэтага залежыць карысьць ад каровы. Звычайна бывае так, што у зіму сяляне нашы слаба кормяць карову і яна не дае тэй карысьці, якую ад яе можна мець. Дзеля гэтага трэба зьвярнуць увагу на наступнае:

1) У зіму добра карміць сваіх кароў і не шкадаваць грошаў на добрую ежу, бо добра адкормленая карова аплаціць выдаткі на корм.

2) Рупіцца аб чыстаце ў хляве і хлеў праветрываць.

3) Абавязкава выпускаць кароў з хлява на прагулку, нават у мароз, бо гэта добра уплывае на здароўе і малочнасьць каровы.

4) Ніколі не даваць каровам халоднай вады, а толькі сагрэтую, бо халодная вада зьмяншае малочнасьць.

5) Каб карова не цярпела холаду ў хляве, бо ад гэтага трэба больш корму і корм гэты не дасягае карысьці.

## Радзільная гарачка.

На радзільную гарачку, ці як яе называюць „паляруш“, больш усяго хварэюць каровы,

якія лёгка цяліліся, ці якія зразу пасьля ацёлу сытна кормяцца. Праз якіх 12—15 гадзін пасьля цяленьня карова пачынае непакоіцца, потым перастае есьці, упірэецца галавой у жолаб, скрыгоча зубамі, робіцца кволаю, лажыцца і пачынае цяжка дыхаць, закінуўшы галаву набок; язык у хворай каровы выпадае, з роту, з абодвых бакоў яго цячэ сьліна, бо хворая на паляруш жывёла ня можа глытаць. Калі галаву такой каровы адвярнуць і паставіць роўна, дык яна ізноў адварачваецца на бок.

Ногі, вушы і ўвесь рот пры гэтым становяцца халоднымі. Калі паставіць градусьнік у заднюю кішку такой карове, дык ён не паказвае больш 36 градусаў і нават толькі 35 град.

Захварэўшую карову трэба зараз-жа лячыць. Праз рот ніякія лякарствы даваць нельга, бо жывёла ня можа глытаць, а трэба ўлажыць руку ў заднюю кішку і выбраць адтуль увесь кал, потым паставіць леватыву, расьцерці карову саломай, як мага цяплей укрыць яе чым-небудзь цёплым.

Але самы галоўны спосаб лячэньня ад гэтай хваробы і на наш паглад адзіны—гэта ўдуваньне паветра ў вымя.

Апарат, які для гэтага існуе, завецца струмантам Эвэрса. Калі пад рукамі такога апарату не акажацца, тады можна дапасаваць да гэтага звычайную спрынцоўку, або насос ад вэлёсапэду, толькі на канцы іх павінна быць тоненькая і чысьценькая трубачка, якая ўваходзіла-б у сярэдзіну дойкі і старацца, каб удуваемае паветра было чыстае, нічым не забруджанае.

Надзьмуваць у кожную чвэрць вымя трэба каля двох літраў паветра, каб яно добра набрыняла. Надзьмуўшы адну чвэрць вымя, трэба сьціснуць дойку і расьціраць вымя, каб паветра разыйшлося па ім; потым надзьмуваюць другую чвэрць вымя і г. д.

Звычайна карова праз 7—8 гадзін пасьля гэтага ачуньвае (бывае часамі нават і раней), падымаецца на ногі і пачынае брацца за яду.

С.

## Азнакі здаровага сільнага каня.

Пры куплі каня для гаспадаркі трэба зварачваць увагу на наступнае:

1) Сільны і здаровы конь мае лагодны, ясны і ігрывы выгляд.

2) Вочы чыстыя, без сьлязы і плямаў. Сьлізістая абалочка наўкола вока бледна-ружавая.

3) Сьлізістая абалочка носа, губ і рота — гэтак сама бледна-ружавая.

4) Нос—зусім сухі. У носе не павінна быць белых нэрвовых рубцоў.

5) Дыханьне не сьмярдзючае.

6) Пры лёгкім націсканьні на горла — не кашляе.

7) Вушы цёплыя. Стаяць роўна ўгару, абодва аднолькавыя. Не пазваляе класьці пальцы ў вушы.

8) Дыша роўна, без паднясеньня бакоў. Дыша аднолькава абедзьвума ноздрамі

9) Жуе без затрыманьня і бяз сьлюненьня.

10) Жывот мае не падцягнуты (як у харта) і ня ўздуты (як бочка).

11) Не аглядаецца на жывот і назад.

12) Ня круціць без патрэбы хвастом.

13) Пры лёгкім прабегу не пацее.

14) Ня зьгінаецца пры націсканьні на холку і ныркі.

15) Скуру мае мягкую, гладкую, шэрсьць глянцаватую, бяз ссадзін, рубцоў і струпоў.

16. Наагул не касьцісты.

17) Абедзьве пярэднія, як і заднія ногі згары да нізу, спераду, збакоў і ззаду аднолькавыя.

18) Капыты гладзенькія, без „абручоў“, з глянцам, не залеплены ў расколінах, з неабломанымі ніжнімі краямі, з вялікаю нягнілою стрэлкаю.

19) На вянцох абедзьве нагі маюць гладзенькую або кучаравую шэрсьць.

20) На хаду роўна і аднолькава апіраецца на ўсе ногі (пры паваротах не асядае).

21) Не дазваляе наступіць ботам на вянец.

22) Калі няма пэўнасьці ў гадох, трэба пагляд зець на зубы. Зубы павінны быць роўна сьцёртыя. Падвочныя ямкі няглыбокія. Ніжняя губа не абвісае. Калі каня купляюць не на кірмашы, а дзесь у гаспадара, трэба яшчэ зьвярнуць увагу на наступнае:

23) Калі вывядуць каня са стайні, ён на ўсё зьвяртае увагу і ўсім цікавіцца.

24) Пры піцьці — ня вылівае вады праз нос і ня ўсоўвае ноздраў у ваду. Акрамя таго, ня трэба слухаць таго, што будуць гаварыць незнаёмыя людзі. Найбольш уважна глядзець на тое, што прадавец стараецца скрыць.

25) Ня йсьці на кірмаш п'яным.

# Юрыдычныя парады.

**Грамадз. К. Я—вічу.** Запытаньне: сваяк брата майго бацькі як выехаў у 1915 г. у Расею (эвакуаваны) з сям'ёй, дык там застаўся і па сяньняшні дзень. Жыве ён недзе аж на Урале, але ніякіх зносінаў з ім і яго сям'ёй ня маем. Ягоная зямля 1/2 вуч. (9 дзес.) была перш забрана суседам, але ў 1923 годзе я зьвярнуўся ў суд і мяне вызначылі куратарам над гэтай зямлёй, і я ёю ўладаю цяперака, як куратар. Цяперака кажуць, што зямлю гэтую могуць адабраць ад мяне і ўзяць у казну. Ці праўда гэта і ці я не магу неяк заставіць гэтую зямлю за сабой, тым балей, што ў мяне сваей зямлі ўсяго 1 з паловай дзес., а на гэтай я на'т паправіў будынкі. Калі можна, дык што і як трэ' рабіць?

Адказ: 7-га лютага бягучага году вышла распараджэньне Прэзыдэнта, па якому ўсе земскія нярухомасьці, якія знаходзяцца пад апекай (куратэляй) з прычыны адсутнасьці ўласьнікаў, калі пры гэтым адсутнасьць гэтая

пачалася да 1 студня 1921 году (напр., не вярнуўся з бежанства), падлягаюць прымусоваму выкупу ў казну. Перад гэтым будзе зроблены **выклік** насьледнікаў, якім у працягу 30 дзён ад дня публікацыі ад выкліку будзе можна заявіць свае правы на маемасьць. Гэты выклік будзе зроблены праз трохразовую публікацыю ў газэце „Монітор Польскі“, а так-жа і праз абвесткі ў гмінах, згодна з існуючымі ў гэтых гмінах звычаем і правілам.

Выкупленыя казной землі пойдуць на мэты зямельнай рэформы, паказаныя ў ст. 1 уставы з дня 23 сьнежня 1925 г. аб выкананьні зямельнай рэформы. Мэты гэтыя наступныя: стварэньне новых самастойных землеробскіх гаспадарак, павялічэньне існуючых малых гаспадарак да разьмераў самастойных гаспадарак для арганізацыі садаводзтва, гародніцтва і інш.

Разьмер вучасткаў (парцэляў) для паасобных гаспадарак ня можа перавышаць 20 гэктараў, а ў ваяводзтвах нашых — Беластоцкім, Наваградзкім, Віленскім і Палескім — 35 гэктараў.

Набываць гэтыя землі ад казны могуць грамадзяне польскай дзяржавы землеробы, галоўнае заняцьце якіх ёсьць сельская гаспадарка ці садаводзтва, або гародніцтва і якія выкажуць, што яны і тэорэтычна і практычна прырыхтаваныя да гэтага роду дзейнасьці.

Пакуль што, Вам прыходзіцца адно: чакаць і пільна сачыць у гміне за абвесткай аб выкліку насьледнікаў. Калі нікога з бліжэйшых крэўных уласьніка вучастку, якім Вы карыстаецеся, не акажацца, і калі будзе ўжо абвешчана, што гэная зямля вызначаецца да прымусовага выкупу, — Вам трэба будзе зьвярнуцца да галоўнага земскага ўраду (Główny Urząd Ziemski) з просьбаю аб адачы Вам гэтага вучастку. У просьбе трэба паказаць: што Вы належыце да тэй-жа гміны, у межах якой знаходзіцца зямля, тое, што Вы маеце толькі 1½ дз. (гэта павінна быць сцьверджана пасьведчаньнем гміны), а так-жа і тое, што Вы ўже некалькі гадоў працуеце на гэтай зямлі і шмат палепшылі яе якасьць. Калі зямля побач з Вашай—гэта так-сама трэба абавязкава паказаць.

**Ад Рэдакцыі**: Дзеля таго, што гэткіх вучасткаў, адданых пад куратэлю ёсьць у нас шмат, мы ў наступным нумары падамо цалкам зьмест (у скарочаным відзе) вышэй пададзенага распараджэньня і выясьнім, што і як трэба рабіць насьледнікам, куратарам і іншым асобам, зацікаўленым у набыцьці гэткіх вучасткоў зямлі.

**Ня зьнішчайце газэты! Прачытаўшы, перадайце суседу!**

# Навука і тэхніка.

## „Цэппелін“.

Апошні пералёт Цэппеліна праз Атлянтыцкі акіян з Нямеччыны да Злучаных Штатаў зьяўляецца новаю вялізарнаю перамогаю тэхнікі.

У зьвязку з гэтым гэройскім палётам пры самых няспрыяючых атмасфэрычных абставінах, у прэсе распачалася паважная гутарка аб устанаўленьні сталай пасажырска-паштовай камунікацыі пры помачы дырыжабляў тыпу Цэппеліна, ці R. 100, між рожнымі часткамі сьвету, якая ня толькі ня ўступае ні ў чым параходнай камунікацыі, але на'т мае шмат перавагаў.

Найперш гэта камунікацыя значна скарэйшая, а падругое, на дырыжаблях пасажыры не адчуваюць таго хістаньня, якое пераносяць на параходах. Праўда, ў часе апошняга палёту Цэппеліна пасажыры яго перажылі шмат страшных і няпрыемных хвіляў, але гэта тлумачыцца толькі страшэнным ураганам, у які папаў дырыжабль, адарваўшы руль і папсаваўшы частку абалочкі, аднак-жа ня выклікаўшы паветранай катастрофы. Статыстыка ўжо давяла, што па чугунцы і моры значна больш здараецца катастрофаў з людзкімі ахвярамі, чым у паветры. Зусім магчыма, што ў бліжэйшай будучыне паветраная камунікацыя будзе самай хуткай, прыемнай і бясьпечнай, асабліва на дырыжаблях.

Найбольшых вынікаў у галіне паветраплаваньня дасягнулі немцы, якія стаяць на першым мейсцы па ліку пасажырскіх аэрапланаў і паветраных ліняў. Пасьля таго, як немцам забаранілі хаўрусьнікі будаваць ваенныя аэропляны, яны зьвярнулі ўсю сваю увагу на цывільнае паветраплаваньне. Пры гэтым цэппеліны зьяўляюцца апошнім словам тэхнікі.

Толькі што выбудаваны ў Фрыдрыхсгафэне цэппелін, на якім зроблены памысны пералёт да Амэрыкі, зьяўляецца найвялікшым з істнуючых цяпер дырыжабляў. L. Z. № 127 мае 235 мэтраў (гэта значыць каля 400 крокаў) даўжыні і 105,000 куб. мэтраў абыйма.

Прыводзіцца ў рух пры помачы 5 матораў сыстэмы Найбаха па 530 конскіх сілаў кожны. Максымальная хуткасьць 128 кілямэтраў у гадзіну, сярэдняя 100 кілямэтраў. У паветры можа пратрымацца, як паказаў досьлед з апошнэм пералётам, 112 гадзін і яшчэ засталося бэнзыну на 24 гадзіны палёту. Каб мець прыблізнае выбражэньне аб вялічыні гэтага волата, даволі ўказаць на тое, што ў аэрадроме, выбудаваным спэцыяльна для яго ў Лекгэрэце каля Нью-Ёрку, можа зьмясьціцца 15-паверхавы дом. Ён можа ўзяць з сабою 100 пасажыраў, з багажом і ежаю, вадою і інш. на 5 сутак, некалькі тонаў паштовых пасылак і 35 чалавек абслугі. Вартасьць будовы складае 300,000 ф. шт., ці 1½ мільёна даляраў.

Але праўда, гэта падарожжа пакуль не для ўсіх даступная: білет каштуе 120 ф. шт., а не-

каторыя на'т плацілі па 3,000 даляраў, толькі-бы ўзяць удзел у першым палёце.

Гэта ўжо трэцяя проба пералёту Атлянтыцкага акіяну на дырыжаблі. Першая была дакапана англійскім капітанам у 1919 г., другая на цэпеліне ў 1925 г. доктарам Экэнэрам, пад кіраўніцтвам якога будуюцца цяпер цэппеліны. Гэты цэпелін цяпер знаходзіцца ў Амэрыцы пад назваю Лёс—Ангэляс.

Апошні палёт цэппеліна пад кіраўніцтвам д-ра Экэнэра быў выкананы пры самых няспрыяйных абставінах. З самага пачатку прышлося зьмяніць кірунак палёту, заместа праз Англію—над Сяродземным морам — Азорскімі і Бэрмудзкімі выстравамі, які значна даўжэйшы першага. Над Бэрмудзкімі выстравамі раптоўна паднялася бура, зламаўшая левы руль. Хвост дырыжабля пачаў апускацца ўніз, раўнавага была нарушана. Уся мэбля ў гандолах перакулілася. Пасажыраў ахапіла паніка. Толькі кіраўнік дырыжабля д-р Экэнэр і яго каманда захоўвалі поўны супакой. Сын Экэнэра і некалькі работнікаў у працягу 4 гадзін, падвешаныя на вяроўках, ў часе шалеючай буры над бушуючым морам папраўлялі зломаны руль, і абшыўку. У гэты час вецер аднёс дырыжабль назад і ўбок. Аднак-жа ўсе разбурэньні былі папраўлены, дырыжабль ізноў прыняў свой кірунак і хаця з вялікім апазьненьнем, як пераможца паявіўся над Нью-Ёркам, вітаны амэрыканскім народам. У часе ўсяго палёту дырыжабль знахадзіўся ў сталай тэлеграфнай сувязі з акружаючым сьветам. Ён мае прылады для надаваньня і прыйма радыё-тэлеграмаў і кінаапэратараў, якія ў часе палёту рабілі кінаматаграфічныя зьнімкі. Цэппелін шчасьліва спусьціўся ў прысутнасьці шматтысячнага натоўпу. Праз 10 дзён пасьлянапраўкі папсутых частак і акружнага палёту над Амэрыкай, цэппелін выляціць з Амэрыкі да Эўропы.

## Усячына.

### Новая будаўляная катастрофа.

Пасьля абвалу сяміпаверхавага дому ў Празе Чэскай, здарылася новая катастрофа у Вінсэне (Францыя). Абваліўся 7-мі паверхавы дом, на мейсцы якога засталася куча грузу, з пад якога дабыта каля 15 трупаў работнікаў.



## Куток жартаў і сьмеху.

### На кароткі час.

— Што-ж будзе з тымі 20 зл., якія я табе пазычыў? Ты-ж казаў мне, што яны патрэбны табе толькі на кароткі час!..

— Але, бо праз пяць мінут я ужо ня меў з іх ніводнага грошу.

### Хутка падлічыў,

Пажылая панна: — Бацька дарыць мне кожны год у дзень імянін кніжку.

— Кавалер: — О, у такім выпадку пані павінна мець вялікую бібліятэку.

### Верх дабрачыннасьці бяз рызыкі.

Адзін багаты англійскі прамысловец падаў у газэтах, што гатоў даць 10,000 ф. шт. — удаве пасьля „нявідамага жаўнера.“

### Перад экзаменам.

Бацька да сына перад экзаменам:
— Ці падрыхтаваўся, сынок?
— Але, на'т да найгоршага.

### Разумнае дзіця,

— Тата, а я ўмею нешта такое, чаго ты ня ўмееш.
Што-ж?
— Расьці.

### Зьнявага.

Шараговец да свайго калегі: — Адзін цывільны сказаў мне сяньня, што я вельмі „лаконічны“ Ты ня ведаеш, што гэта значыць?
— І я ня ведаю.
— На ўсякі выпадак я даў яму аплявуху.



Рэдактар-Выдавец Т. ВЕРНІКОЎСКІ. Бел. друкарня ім. Фр. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1,